Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
В.а. галоўнага рэдактара
і заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, г.Мінск,
вул. Змітрака Бядулі, 6-47.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Пятніца, 15 студзеня 1999 г. № 4 (535) Кошт свабодны

## Прыязджае рабочая група

**З 17 па 19 студзеня ў Мінску будзе знаходзіцца рабочая група па Беларусі, якую заснавала Парламенцкая асамблея АБСЕ ў мінулым годзе.**

Яе кіраўніком прызначаны былы міністр замежных справаў Румыніі спадар Адрыян Северын. У склад рабочай групы ўваходзяць прадстаўнікі Германіі, Фінляндыі, Грузіі і Украіны. Парламентары АБСЕ маюць намер падтрымаць работу кансультатыўнай групы АБСЕ ў Мінску і *«дапамагчы развіццю дэмакратыі ў Беларусі, наладжванню дыялогу і нацыянальнага прымірэння»*. Парламенцкая асамблея АБСЕ прызнае Вярхоўны Савет 13-га склікання легітымным парламентам Беларусі.

Рабочая групы АБСЕ збіраецца вывучыць сітуацыю ў нашай краіне і сустрэцца з прадстаўнікамі афіцыйных структураў і апазіцыі.

**А.Д.**

## Факсы Зянона Пазьняка

**Рэдакцыя НАВІНАЎ атрымала ад старшыні БНФ Зянона Пазьняка факс, які змяшчае зварот да грамадзянаў Беларусі ў сувязі з падпісаннем 25 снежня 1998 г. у Маскве дэкларацыі аб аб'яднанні Беларусі і Расіі.**

У сваім звароце, які мае назву «Абаронім Беларусь!», старшыня БНФ заклікае грамадзянаў Беларусі пратэставаць супраць інтэграцыі і ўсялякіх псеўдарэферэндумаў, станавіцца ў пікеты, збіраць сродкі на барацьбу, рыхтаваць усеагульны нацыянальны страйк, які вясной павінен перататварыцца ў бесперапынную акцыю, уступаць у грамадзянства Беларускай Народнай Рэспублікі. Старшыня БНФ зычыць усім суайчыннікам здароўя і моцы для перамогі над сіламі імперыі зла.

Адначасова Зянон Пазьняк прыслаў зварот да салдатаў, сяржантаў, прапаршчыкаў, афіцэраў Беларускіх Збройных Сілаў, унутраных войскаў, міліцыі і КДБ, каб былі гатовыя выканаць свой канстытуцыйны і маральны абавязак па абароне свабоды і незалежнасці краіны.

## Страйкамаў стане больш

**Сёння ў Оршы адбудзецца сход прадстаўнікоў прамысловых прадпрыемстваў, на якім плануецца заснаваць рэгіянальны страйкавы камітэт.**

Па словах Сяргея Антончыка, старшыні часовага каардынацыйнага цэнтра, *«людзі, гатовыя змагацца за свае сацыяльна-эканамічныя правы, а страйкамы дапамогуць ім аб'ядноцца незалежна ад палітычных поглядаў ці прыналежнасці да пэўнага прафсаюза»*. 23 студзеня на агульным сходзе прадстаўнікоў рэгіянальных структураў плануецца заснаваць рэспубліканскі страйкавы камітэт, які зойме месца бюджэтнай сферай, прамысловасцю, студэнтамі і прадпрымальнікамі. Увага рэгіянальнага камітэта будзе скіравана таксама на армію і калгасы. Рэгіянальныя страйкамы ўжо дзейнічаюць у Мінску, Гомелі, Гродне, Салігорску і Барысаве.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Вернуцца не ўсе

У сераду, 13 студзеня, прэзідэнт Лукашэнка наладзіў у сваёй рэзідэнцыі прыём для замежных дыпламатаў з нагоды старога Новага года.

На гэтай імпрэзе адсутнічалі кіраўнікі дыпламатычных місіяў шэрагу краінаў. Гэтая акалічнасць сапсавала навагодні настрой ачольніку дзяржавы.

Паслы краінаў Еўрапейскага саюза намерваюцца з'явіцца ў Мінску толькі ў нядзелю, 17 студзеня, разам з рабочай групай Парламенцкай асамблеі АБСЕ пад кіраўніцтвам былога міністра замежных справаў Румыніі Андрыяна Северына. Рэйсам «Люфтганзы» прылятаюць амбасадары Вялікабрытаніі, Германіі, Грэцыі і Італіі. Гэтую інфармацыю пацвердзілі ў амбасадах. Вяртаецца ў гэты ж дзень і пасол Польшчы, але ён прыедзе на аўтамабілі. Пасля дыпламатычнага скандалу, звязанага з высяленнем паслоў з іх рэзідэнцыяў у Драздах, беларускія ўлады падпісалі 9 снежня мінулага года пагадненне з кіраўніцтвам Еўрасаюза. У ім беларускі бок згадзіўся адкрыць на адзін месяц «шырокі доступ паслоў да сваіх рэзідэнцыяў на тэрыторыі комплекса ў Драздах, каб яны вызвалілі памяшканні». Беларускія ўлады паабяцалі еўрапейцам садзейнічаць у заключэнні новых дамоваў аб арэндзе.



*На здымку (з архіва): паслы заходніх краінаў перад вымушаным ад'ездам на радзіму — тост за вяртанне ў Беларусь.*

Дата вяртання пасла ЗША, які ў чэрвені мінулага года пакінуў Беларусь разам са сваімі калегамі з краінаў ЕС, пакуль не вызначана. Гэта нам пацвердзілі ў амерыканскай амбасадзе. Злучаныя Штаты вядуць асобныя перамовы з беларускім бокам і патрабуюць ад яго жорсткіх гарантыяў выканання Венскай канвенцыі. Толькі пасля гэтага магчымы дыялог пра пошук новай рэзідэнцыі. Не ведае дату свайго вяртання ў Вашынгтон і беларускі пасол у ЗША Валерый Цэпкала, які ўжо некалькі месяцаў знаходзіцца ў Мінску ў сувязі са скандалам.

Беларускія ўлады спрабуюць наладзіць перамовы і з Міжнародным валютным фондам, прадстаўнік якога таксама арандуе памяшканне ў комплексе «Драздоў».

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Злодзеям прыглянулася кватэра Пімена Панчанкі

**Абкрадзена кватэра, у якой да сваёй смерці ў 1995 г. жыў народны паэт Пімен Панчанка. Невядомыя ўзламалі замкі і ўлезлі ў хату раніцай у аўторак, калі ўдава паэта паехала ў паліклініку.**

*«Дачка адвезла мяне да дактароў, каб зрабіць рэнтген. Недзе дзве гадзіны я адсутнічала, а калі вярнулася, не пазнала сваёй кватэры. Усё дагары нагамі, тэлевізара няма, шафы адчыненыя»*, — распавядае Зоя Кірылаўна Панчанка.

Апроч тэлевізара, знік таксама польскі медаль, якім паэт быў узнагароджаны «за прапаганду польскай культуры». Магчыма, скрадзены і некаторыя іншыя ўзнагароды, але Зоя Кірылаўна пакуль не разабралася, якія дакладна — «патрэбен час». Затое яна не хавае задавальнення, што ўдалося зберагчы больш каштоўныя рэгаліі мужа — ордэн Леніна, тры ордэны Чырвонага сцяга і ордэн Айчыннай вайны, якім паэт асабліва ганарыўся. Гаспадыня прадбачліва схавала гэтыя ўзнагароды ў такое месца, дзе злодзеі іх не знайшлі.

А больш асцярожнай жанчына стала пасля таго, як літаральна два гады таму, у студзені 1997 года, кватэру ўжо наведвалі рабаўнікі. Зоя Кірылаўна тады таксама ад'ехала на пару гадзінаў, а калі вярнулася, знайшла дзверы кватэры зачыненымі знутры. Пакуль хадзіла да суседзяў, злодзеі збеглі, прыхапіўшы залатыя ланцужок і вопратку ўнучкі. У міліцыі завялі справу, але тых візіцёраў так і не знайшлі. Не надта верыць сп. Панчанка, што міліцыянтам больш пашанцуе зараз. Яна ўпэўненая, што гэта справа рук вытадных прафесіяналаў. *«За мной, пэўна, сачылі, бо я з'язджаю з дому вельмі рэдка»*, — кажа Зоя Панчанка. Асабліва ёй шкада тэлевізара. *«Амаль новы быў, а што мне без тэлевізара рабіць? Я ж жыву адна»*, — скардзіцца ўдава народнага паэта.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Набліжаецца эпідэмія грыпу

**У студзені-лютым на Беларусі чакаецца эпідэмія грыпу. Пра гэта нам паведамілі ў міністэрстве аховы здароўя.**

Па словах эпідэміёлага Анатоля Кажамякіна прагназуецца змешаны вірус групы А і В. Маштаб захворвання ў параўнанні з іншымі гадамі будзе невялікі. Найбольш жорсткай эпідэмія была зарэгістраваная ў 1995 годзе, калі ад гэтай хваробы памерла 17 чалавек. Грып ужо прыйшоў на Беларусь. У лістападзе мінулага года налічвалася 156 выпадкаў гэтага захворвання. На прасторах СНД эпідэмія пачалася толькі ў трох расійскіх гарадах: Хабараўску, Іркуцку і Чыце. Паводле апошніх дадзеных: у Аўстрыі ёсць тры выпадкі лабараторна пацверджанага грыпу, у Францыі — пяць, а ў Грэцыі — толькі адзін.

Найлепшай вакцынай супраць грыпу з'яўляецца французскі «Ваксігрып», які лёгка пераносяць дзеці з 6-месячнага ўзросту. Нашая краіна больш не закупляе «Ваксігрып» з-за цэнаў, нават на расійскую вакцыну не хапае грошай.

Вакцынацыю найбольш аслабленай групы насельніцтва (гэта каля 235 тысяч чалавек) урачы яшчэ не пачыналі. У снежні міністэрства аховы здароўя распрацавала шэраг мераў на выпадак эпідэміі. Прадугледжваецца закрыццё школаў на карантын, калі захварэюць каля 40 працэнтаў вучняў і настаўнікаў. Санітарныя службы пракантралююць наяўнасць ацяпленне ў вытворчых памяшканнях. У каго не хопіць грошай на медыкаменты, давядзецца скарыстаць народныя сродкі — часнок, цыбулю, мёд, лімон ці журавіны.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Жанчына пагражае самаспаленнем

**Сумная гісторыя полацкага адваката Аляксея Філіпчанкі, які ў ліпені мінулага года спаліў сябе каля будынка гарадскога суда, можа мець працяг.**

Яго былая падабаронная Антаніна Воранава таксама збіраецца ўчыніць акт самаспалення, калі мясцовыя ўлады не пакінуць спробы ўсяліць у яе кватэру пастаронняга чалавека.

Гэты канфлікт цягнецца ўжо некалькі гадоў. Антаніна Воранава спрабуе абараніць сваю маёмасць і ўжо прайшла ўсе судовыя інстанцыі, але безвынікова. Суддзі лічаць законным пасяленне ў кватэру гэтай жанчыны іншага чалавека. Воранава раней ужо пагражала чыноўнікам, што падарве ў кватэры газавы балон, калі яе не пакінуць у спакоі. Днямі Воранава атрымала судовую пастанову з патрабаваннем вызваліць частку жылплошчы да 20 студзеня.

*«Мне няма чаго губляць і, калі толькі судовыя выканаўцы сунуцца да мяне ў кватэру, я зраблю тое самае, што і Філіпчанка»*, — паведаміла нам Антаніна Воранава.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## «Замініравалі» жылы дом

У мінулы аўторак гомельская міліцыя паўтары гадзіны шукала бомбу ў адным з жылых дамоў.

У міліцыю Чыгуначнага раёна Гомеля паступіў сігнал аб замініраванні аднаго з жылых дамоў. Жыхарка гэтага дома, пенсіянерка, паведаміла, што ёй патэлефанавала невядомая жанчына і папярэдзіла пра маючы адбыцца выбух. Міліцыянерам і сапёрам давялося эвакуіраваць жыхароў 120-кватэрнага дома, якія прыкладна паўтары гадзіны былі вымушаны правесці на вуліцы. Аднак ніякай выбуховай прылады ў будынку знойдзена не было.

*БелаПАН*

*Працэс*

# Васіль Старавойтаў не давярае суддзі

**На працэсе ў Кіраўску, дзе судзяць двойчы героя сацыялістычнай працы Васіля Старавойтава, абарона аб'явіла аб недаверы ўсяму складу суда на чале з Надзеяй Чмара.**

Абвінавачаны Старавойтаў гэтую заяву падтрымаў. *«Вы хочаце згнаіць мяне ў турме. Гэта не суд, а расправа»*, — крычаў Старавойтаў з жалезнай клеткі. Суд, аднак, адхіліў хадайніцтва абароны і абвінавачанага.

Прычынай абвастрэння адносінаў паміж судом і абаронай стаў разгляд вынікаў экспертызы здароўя былога старшыні АТ «Рассвет». Рашэнне аб правядзенні экспертызы суд прыняў яшчэ 22 снежня мінулага года. Дактары агледзелі Старавойтава 5 студзеня і адправілі сваё заключэнне ў суд поштай. Пасланне яшчэ было на шляху да суда, калі абарона ў панядзелак прад'явіла завяранае подпісам і пячаткай меркаванне аднаго з экспертаў псіхіятра Валерыя Будакова, які агледзеў Старавойтава ў Бабруйскім ізалятары і зрабіў выснову, што *«па сваім псіхічным стане Старавойтаў В.К. не можа ўдзельнічаць у судовым працэсе»*. Будакоў выказаўся за хутчэйшае вызваленне вязня і лячэнне яго ва ўмовах стацыянара.

Аднак суд, спаслаўшыся на тое, што заключэнне патрапіла на працэс «не належным чынам», не прыняў меркаванне псіхіятра да ўвагі. У сераду Кіраўскі суд атрымаў, нарэшце, заключэнні іншых экспертаў. Яны не лічылі Старавойтава хворым настолькі, каб яго трэба было класці ў шпіталь. На падставе гэтых заключэнняў судовая калегія на чале з Надзеяй Чмара вырашыла пакінуць 74-гадовага старога за кратамі. Цяпер ад Васіля Старавойтава дамагаюцца, каб ён даў паказанні ў судзе, а пасля без усякіх праблемаў можна будзе апытваць сведкаў. Між тым абаронцы былога старшыні «Рассвета» Вера Страмкоўская і Гары Паганяйла заяўляюць, што працэс у Кіраўску прыняў яўна абвінаваўчы ўхіл.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Міжгароднія аўтобусы навучыліся рабіць і ў Беларусі

**Як мы ўжо паведамлялі, у аўторак адбылася прэзентацыя першага міжгародняга аўтобуса, выробленага на Мінскім аўтамабільным заводзе.**




*На здымку: дырэктар аўтобуснай вытворчасці МАЗ Сяргей Сінягоўскі выпускае ў свет першы міжгародні аўтобус МАЗ.*

Аўтарам дызайнерскай распрацоўкі аўтобуса МАЗ-152 з'яўляецца калектыў канструктараў аўтобуснай вытворчасці аўтазавода. Новая мадэль мае таксама сваю назву — «Вазола» — па аналогіі з адным са старажытных беларускіх мястэчак.

Новая мадэль аўтобуса разлічаная на 47 чалавек. Ён мае зручны ўваход — вышыня прыступкі над узроўнем дарогі ўсяго 40 сантыметраў. Па жаданні заказчыкаў аўтобус можа аснашчацца кандыцыянерам, біятуалетам, халадзільнікам, стойкай-барам і іншым дадатковым абсталяваннем.

Цана базавай камплектацыі аўтобуса МАЗ-152 плануецца ў памеры 150 тысяч долараў ЗША, што значна ніжэй за цэны асноўных канкурэнтаў. Напрыклад, самы «танны» міжгародні аўтобус расійскай вытворчасці каштуе 160 тысяч долараў ЗША.

Нагадаем, што аўтобусы пачалі вырабляць на МАЗе ў чэрвені 1992 года. У той час для выпуску базавай мадэлі прадпрыемства набыло ліцэнзію вядомага сусветнага вытворца — нямецкай фірмы *Neoplan*. Першыя 5 мадэляў аўтобусаў (4 гарадскія і 1 турыстычны) у адпаведнасці з ліцэнзіяй цалкам выраблялiся з нямецкіх камплектуючых, аднак у працэсе выпрабаванняў і эксплуатацыі ў айчынных умовах у гарадскіх аўтобусах выявіўся шэраг істотных асаблівасцяў. Яны ўлічваліся аўтазаводскімі канструктарамі пры распрацоўцы ўласных мадэляў аўтобусаў, паступова зніжалася колькасць імпартных камплектуючых.

Цяпер гэтыя аўтобусы працуюць у многіх гарадах Беларусі і Расіі. Як паведаміў Цэнтр грамадскіх сувязяў МАЗ, за ўвесь час было выпушчана 398 аўтобусаў. Плануецца, што ў гэтым годзе МАЗ выпусціць яшчэ 380 машын. Найбольш буйнымі заказчыкамі з'яўляюцца мэры Мінска і Санкт-Пецярбурга, падпісаны кантракт на іх пастаўку ў краіны Балтыі.

*БелаПАН*

# Беларуская рэклама на ОРТ

**У сераду на расійскім тэлеканале ОРТ упершыню з'явілася беларуская рэклама для беларускіх тэлегледачоў — рэкламныя блокі былі ўстаўленыя ў серыял «Птушкі на цернях».**

Яшчэ нядаўна мінская дзяржаўная прэса ва ўнісон маскоўскай ганіла «хахлоў», якія замяняюць на маскоўскіх тэлеканалах іхнюю рэкламу сваёй. Мауляў, гэта амаль што русафобія. Але цяпер матэматыкі з БТ нарэшце падлічылі, якія мае страты іх бюджэт, транслюючы па расійскіх каналах бясплатна маскоўскую рэкламу. І вось тэлегледачы вачам не паверылі, калі ўбачылі ўпершыню, як па ОРТ пакаціліся рэкламныя беларускія капелюшы, а іх сталі заклікаць купіць смаргонскі міні-трактар і сухі булён слуцкага мясакамбіната.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

*Экалогія*

# Сорам вочы не выесць, а рак – можа...

**Вучоныя з Беларускага навукова-даследчага інстытута санітарыі і гігіены ўпершыню вывучылі асаблівасці фарміравання анкалагічных захворванняў скуры ў працуючых на Полацкім заводзе «Шкловалакно».**

На гэтым прадпрыемстве ў працэсе даследаванняў было зарэгістравана 25 выпадкаў новаўтварэнняў скуры. З іх 17 — злаякасныя. За апошнія 6–7 гадоў на Беларусі ў 3 разы павялічылася колькасць хворых сярод дзяцей і дарослых, у якіх выяўлены злаякасныя пухліны вачэй. Аддзяленне пухлінаў органаў зроку плануецца неўзабаве размясціць на базе Рэспубліканскага НДІ анкалогіі і радыяцыйнай медыцыны ў Бараўлянах.

**Святлана АЛЕКСАНДРОВІЧ**

# Гарэлка зноў даражэе?

**«Гарэлка падаражэе на 70 працэнтаў», — кажуць людзі ў чэргах, што зноў з'явіліся ў вінна-гарэлачных крамах. Чарговае павышэнне коштаў на самы любімы народам напой звязваецца з будучым панядзелкам — 18 студзеня.**

Каб высветліць становішча, учора мы звязаліся з мінскім аб'яднаннем «Крышталь» — вытворцам самай папулярнай у краіне гарэлкі. «Кошты нам даводзяць зверху, а пакуль ніякіх загадаў не было», — запэўніла галоўны эканаміст Ала Шуляк. Узгадаўшы апошняе павышэнне цэнаў 19 лістапада мінулага года, яна сказала, што тады загад прыйшоў з камітэта па цэнах менш чым за адзін дзень. Намеснік кіраўніка дзяржкамітэта па цэнах Уладзімір Адашкевіч паўтарыў дакладна тое ж: што загаду ад мінэканомікі пакуль не было, а калі будзе, выканаюць хутка. Ацэньваць рэальнасць уздаражання гарэлкі ўжо з панядзелка сп.Адашкевіч адмовіўся.

Мы ж з свайго боку схільныя меркаваць, што гарэлка сапраўды падаражэе. Святы скончыліся, а казну папаўняць трэба. Адкуль жа дзяржаве ўзяць грошы?

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

# СНІД не сгупае

**Паводле дадзеных Брэсцкага абласнога цэнтра прафілактыкі і барацьбы са СНІДам, сёння ў вобласці жывуць 84 ВІЧ-інфіцыраваныя асобы.**

Гэта людзі, якія яшчэ не хварэюць на СНІД, але ў іх арганізмах ужо прысутнічае вірус СНІДу.

Амаль палова з іх — 41 чалавек — жыве ў Пінску. Меней ВІЧ-інфіцыраваных жыве ў Брэсце (12 чалавек) і ў Баранавічах (11 чалавек). Спецыялісты прагназуюць, што ў новым годзе колькасць ВІЧ-інфіцыраваных і хворых на СНІД будзе ўзрастаць. Асноўнымі распаўсюджвальнікамі вірусу СНІД па-ранейшаму застаюцца наркаманы — сёння больш за 90 працэнтаў ВІЧ-інфіцыраваных ужываюць наркотыкі.

*БелаПАН*

# Новая інструкцыя пра персанальную адказнасць

**Чарговую інструкцыю «абмяркоўваюць» у вертыкалі і на прадпрыемствах г.Магілёва.**

Дакумент падпісаны віцэ-прэм'ерам Васілём Даўгалёвым і паведамляе, што *«у рэспубліцы назіраецца рэзкі рост... цэнаў»*. І вінаватыя ў гэтым канешне вытворцы. Яны выкарыстоўваюць не той курс долара, які трэба. Віцэ-прэм'ер піша: *«Па паведамленні мінстата, індэкс спажывецкіх цэнаў за 2 тыдні снежня склаў 9,7%. Такім чынам, патрабаванне прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р. Лукашэнкі аб памежным росце цэнаў не больш чым на 3–5% у месяц не выканана»*. Віцэ-прэм'ер патрабуе, каб вертыкаль тэрмінова прыняла *«неадкладныя меры... у выпадку невыканання прыцягваць да персанальнай адказнасці аж да вызвалення ад займаемай пасады»*.

# Святло за чужы кошт

**2 трыльёны рублёў завінаваціліся прадпрыемствы Магілёўскай вобласці за электраэнергію.**

**Аб гэтым паведаміў кіраўнік вытворчага аб'яднання «Магілёўэнерга» Уладзімір Сяргееў.**

Гэтая запазычанасць апошнім часам практычна не змяншаецца. 2/3 гэтай сумы «належыць» вёсцы і практычна незваротная. На думку энергетыкаў, шмат і яны і бюджэт губляюць ад існавання льготаў. За тое, што хтосьці не плаціць, мусяць расплачвацца іншыя. Агульныя сумы стратаў ад існавання льготных палёгак склалі за мінулы год 550 мільярдаў рублёў.

Але ва ўмовах рынкавага сацыялізму за ўсё плаціць развучылі.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Прыватнік плаціць лепей

**Палова жыхароў Мінска не хоча працаваць на дзяржаўных прадпрыемствах.**

Мінскі НДІ сацыяльна-эканамічных і палітычных праблемаў правёў сацыялагічнае апытанне больш чым трох тысячаў жыхароў Мінска аб тым, дзе б яны хацелі працаваць.

Як высветлілася, 24 % менчукоў хацелі б адкрыць сваю справу; 20 % — хацелі б працаваць на прыватным прадпрыемстве, у прыватнай фірме па найме альбо на сумесным прадпрыемстве. 6% пажадалі патрапіць на працу ў акцыянернае прадпрыемства.

25 % апытаных, або кожны чацвёрты, выказалі жаданне працаваць на дзяржаўных прадпрыемствах і ва ўстановах. 3% жыхароў Мінска не хочуць працаваць нідзе.

*БелаПАН*

# За белым снегам – чорная бяда

Снег, ад якога вызваляе вуліцы і дарогі нашых гарадоў камунальная служба, апрача смецця, утрымлівае вялікую колькасць таксічнага бруду. У Мінску, прыкладам, — дыяксіды азоту і серы, свінцовых злучэнняў ды інш. Усё гэта традыцыйна выгружаецца паблізу гарадской мяжы. Адна з мінскіх звалак снегу знаходзіцца ў Сцяпянцы. Поруч — бальніца, дзіцячы садок. Менавіта сюды, на прыгожую лясную палянку, вясной выйдуць на прагулку дзеці...

Аб гэтым паведамілі па «гарачым» экалагічным тэлефоне, што пачаў працаваць у Мінску па ініцыятыве Беларускай экалагічнай партыі зялёных і Мінскага экалагічнага савета. «Наша «гарачая» лінія працуе толькі з 2 снежня, а да нас паступіла ўжо больш 200 сігналаў аб небяспечнасці асяроддзя пражывання, — паведаміла Людміла Фёдараўна Юшчанка, загадчыца лабараторыі прамысловай экалогіі Асацыяцыі прафесійных эколагаў. — Становішча вельмі сур'ёзнае: з 2-х мільёнаў беларускіх дзяцей амаль у кожнага другога зніжэнне імунітэту. На тысячу юных беларусаў выяўлена 1.322 захворванні. Толькі дзеці Мінска да трох гадоў назапашваюць у сваім арганізме ўдвая больш дапушчальнай нормы нітратаў. Не так даўно правяралі 500 юных мінчан на ўтрыманне ў іх арганізме цяжкіх металаў. У трэці выявілі павышаную канцэнтрацыю свінцу, у палова — кадмію, у 60% — ртуці. Больш таго, усе гэтыя небяспечныя элементы знаходзяцца і ў мацярынскім малацэ...» Мераў аховы пакуль што прынята надта мала, нават асэнсаванне праблемаў не закранула пакуль што большасць насельніцтва.

«Гарачы» экалагічны тэлефон у Мінску — 230-27-78. Тэлефануйце. Паведамляйце. Радзіцеся. Каб не пакінуць нашым дзецям хворую зямлю.

**Святлана АЛЕКСАНДРОВІЧ**

# Непаўналетні забойца

**Жудасная трагедыя адбылася напрыканцы мінулага тыдня ў Магілёве. 16-гадовы хлопец, навучэнец аднаго з магілёўскіх ПТВ, забіў прадаўшчыцу харчовай крамы, а пасля павесіўся сам.**

Хлопец пранік у краму ў абедзенны перапынак. Некалькімі ўдарамі нажа ён забіў прадаўшчыцу, а потым пачаў запіхваць у кішэні цукеркі, шакаладкі і іншыя ласункі, што прадаваліся ў краме.

Тым часам перапынак скончыўся, і таму хлопец не мог выйсці незаўважаным — вакол крамы ўжо стаялі людзі, якія чакалі адкрыцця. Тады хлопец узяў вяроўку і павесіўся.

Міліцэйскае следства паказала, што непаўналетні забойца не стаяў на ўліку, не лічыўся і «цяжкім падлеткам». Патлумачыць дзеянні забойцы-нябожчыка з дапамогай логікі цяжка. Але міліцэйская статыстыка сведчыць, што ў апошні час расце колькасць злачынстваў, учыненых з неймаверна жорсткасцю.

**Іван ЗАСАДА**

## Хуже, чем в тюрьме

Члены оргкомитета Хартии'97 Людмила Грязнова и Дмитрий Бондаренко направили 13 января 1999 года письмо в адрес председателя наблюдательно-консультативной группы ОБСЕ Х.-Г. Вика с просьбой посетить специальный приемник-распределитель управления внутренних дел Мингорисполкома и обследовать условия содержащихся там граждан.

*«По нашим оценкам,* — пишут Грязнова и Бондаренко, — *условия содержания в данном приемнике-распределителе во многом хуже, чем в тюрьмах и колониях Беларуси. Граждане, осужденные по административным статьям, часто оказываются более бесправными, чем заключенные, осужденные по уголовным статьям».*

В письме приведен список вопиющих нарушений условий содержания в стенах приемника-распределителя, таких, как пытка голодом, отсутствие медицинского осмотра, лишение права на передачи, нарушение санитарно-гигиенических норм.

Активисты Хартии напоминают, что в этом приемнике-распределителе за последние три года отбыли наказания сотни активистов оппозиции: *«Мы опасаемся, что в ближайшее время в связи с ростом политической напряженности в Минске и предупреждением прокуратуры в отношении Верховного Совета и Конгресса демократических сил в камерах приемника-распределителя окажутся многие наши соратники. Особенно нас беспокоит судьба Валерия Щукина, депутата Верховного Совета, осужденного в очередной раз на 10 суток ареста в приемнике-распределителе».*

*Пресс-центр Хартии'97*

# Армія без міфаў

**Надзвычай рэдка прыходзіцца чуць і чытаць шчырыя думкі кадравых ваенных пра армію і настроі, што ў ёй пануюць. Таму мы лічым, што чытачу будзе цікава пазнаёміцца з думкамі аўтара палемічнага матэрыяла, які мы перадрукоўваем з газеты «Борисовские новости» (1998, 15—21 октября).**

## Не легендарная и побеждимая...

Меня, как кадрового военнослужащего МО РБ, привлекла публикация полковника в отставке Ю.Г.Куковского («Непобедимая и легендарная...», «БН» № 41 от 8—14 октября с.г.), но, прочитав ее, разочаровался... Приведу примеры из истории XX века. Оказывается, наша Советская непобедимая и легендарная победима, да еще как! В 1919 году нашу легендарную гнало польское войско по всей Белоруссии. В 1939-м нашу непобедимую били финны, лишь благодаря большим человеческим жертвам (с советской стороны) удалось сломить крошечную армию финнов. В 1941 году немецкие войска так дали по зубам непобедимой и легендарной, что за считанные дни была оставлена на растерзание врагу Беларусь. (Неудивительно, что каждый четвертый белорусский житель лег в землю.) Во-вторых, о каких это славных традициях пишет тов. Куковский, которые якобы переняла белорусская армия у Советской. Видимо, он имел в виду уборку закрепленной территории, покраску бордюров, заборов, косметический ремонт казарм перед визитом высокопоставленных начальников, да выезды на сельхозработы.

В армии я прослужил более 15 лет, воевал в Афганистане, к счастью, вернулся не инвалидом. За два года Афгана испытал многое, бывал в окружениях, попадал с ребятами в засады, рвался на минах в БТРе и не раз смотрел смерти в глаза, имею правительственные награды. И я скептически смотрю на эти «славные традиции»: их просто нет, как нет ни патриотизма у молодых воинов, нет любви к символике. Да и как ее любить? Нет исторических корней ни у герба, ни у флага нашего, а тем более у гимна. В разговоре со мной молодой офицер, окончивший Военную академию в Минске, честно заявил: «Белорусов за нацию не признаю». Все меньше в рядах ВС остается «афганцев», и вот нам на смену приходят такие офицеры, не любящие и не признающие свой народ, и я сомневаюсь, что такое войско сможет хоть на день задержать врага у Брестской крепости. А попробуй сказать в коллективе офицеров «Жыве Беларусь!» Все — ты националист! Это неудивительно, ведь сам А.Г.Лукашенко с высокой трибуны пинает довольно тактичную оппозицию БНФ. И называет врагами народа (хотя мне кажется — наоборот). Какникак ни Пазьняк, ни Ходыко нас не тянут в чеченские, дагестанские, таджикские горячие точки, а вот президент все в интеграцию, да не просто, а в единое государство с Россией нас затягивает. Воевать-то нам, военным, придется, раз будем в «единой семье» (черт ее побери).

Больно обо всем этом говорить, много пробелов в нашей армии, как и в обществе. Заранее извиняюсь перед коллегами в военной форме за свои слова, ведь не каждому нравится правда — горькая. А что греха таить, ведь мысли у нас, у военных, сейчас об одном — накормить семью. И живем без выходных и проходных: то на даче пашем, то помогаем женам торговать на базарах, то таксуем и т.д. И нет уже желания и мыслей о защите Родины. Белорусские новости по ТВ «добивают» патриотизм в душах, только «батька» наш об интеграции, об уборке урожая, об отоплении квартир говорит, и везде он... И как он успевает, мне порой кажется, что если б не А.Г., то жизнь в Беларуси остановилась (это я сужу по белтеленовостям).

**Патриот Родины**

***P.S. Жена не разрешила подписаться полным именем, говорит, семью нужно хоть чем-то кормить, хоть какая — а зарплата.***

## Народны універсітэт чакае студэнтаў

17 студзеня ў Мінску пачынае сваю работу Народны універсітэт. Яго мэта — даць прыхільнікам дэмакратычных рэформаў у Беларусі неабходны мінімум ведаў па рынкавай эканоміцы, паліталогіі, гісторыі і культуры Беларусі, якія не даюцца ў праграмах афіцыйных ВНУ. Акрамя гэтых чатырох абавязковых 20-гадзінных курсаў, па жаданні слухачоў будуць прачытаныя спецкурсы. Сярод іх «Палітычная псіхалогія», «Сродкі масавай інфармацыі», «Экалогія», «Мясцовае самакіраванне», «Рабочы рух» ды інш. Агульны аб'ём занятКаў не менш за 120 гадзінаў. Выкладчыкі — вядомыя ў Беларусі навукоўцы і спецыялісты.

Універсітэт будзе працаваць па суботах і нядзелях ва ўправе БНФ «Адраджэнне» па адрасе: вул.Варвашэні, 8 (метро пл.Перамогі). Устаноўчы збор адбудзецца 17 студзеня а 10-й гадзіне.

Запрашаем жадаючых прыняць удзел у працы Народнага універсітэта.

**Юры ХАДЫКА,**
*прарэктар НУ, прафесар*

## Сацыял-дэмакраты мітынгуюць

**Актывісты сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада» праводзяць у нядзелю, 17 студзеня, у Мінску санкцыяванае шэсце і мітынг у абарону суверэнітэта Беларусі.**

Шэсце пачнецца ў 12 гадзінаў з плошчы Я.Коласа. Дэманстранты збіраюцца прайсці па праспекце Скарыны да Опернага тэатра, дзе адбудзецца мітынг.

**Я.С.**

## Признательность

Мы, родители детей из города Пинска, побывавших в декабре в немецком городе Фолькерсдорф, хотим через вашу газету НАВІНЫ поблагодарить Дрезденскую Диаконию и Беларусский благотворительный фонд «Детям Чернобыля» за организацию месячного оздоровительного отдыха наших детей. Им было уделено внимание и проявлена забота на самом высоком уровне как в организации досуга, так и в отношении питания.

Дети мечтают еще раз посетить этот прекрасный уголок Германии, чтобы встретиться со своими новыми и хорошими друзьями Гюнтером Бэром и Петро Фортем.

**Родители: Борсук, Веренич, Гречко, Жирчук, Косьмины, Кришталь, Пацко, Мирановичи, Мялик, Петруковичи, Пешко, Серые**



# Біблія ў салдацкай тумбачцы

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**



Час сёння неадназначны, зменлівы, а таму цікавы. Гэта калісьці пачынала здавацца, што змены немагчымыя, і да канца свету намі будзе кіраваць Палітбюро, рэлігія застанецца «опіумам для народа», а ў цэрквах — склады хімічных угнаенняў. Сёння пагляддзіш: райвыканкам віншуе насельніцтва з праваслаўным святам, нагадваючы пра Бога і хрысціянскія ідэалы, а сам «бацька» спяшаецца з хакейнай пляцоўкі, каб пастаіць з божанькy свечку пад «агнём» фота- і тэлерэпарцёраў. Карацей, народ зноўку пацягнуўся ў храмы.

Адным словам, цікавыя, але няпростыя цяпер часы. Сам уладыка Філарэт у інтэрв'ю гродзенскай газеце прызнае, што «сёння і ў палітычных, і ў грамадскіх, і ў рэлігійных адносінах жыццё складанае». Пры гэтым ён хваліць беларускі народ, які «сціплы і ціхмяны працуе», не зважаючы на ўсе цяжкасці. Адносінамі з уладамі ўладыка збольшага задаволены, аднак гаворыць, што яны чыняць перашкоды, не даючы выкладаць у школах рэлігійную навуку. *«Замест Закона Божага ўводзіцца палавое выхаванне. Малых дзетак вучаць гэткім рэчам, ад якіх дарослыя чырванеюць»,* — хвалюецца экзарх.

Тым не менш, гэта раней улады зусім не заўважалі царкву, і яна існавала асобна ад дзяржавы. Цяпер царква атрымала, калі можна так сказаць, усе грамадзянскія правы. Некалі ў раённую газету магла паступіць пісьмовая скарга толькі на недалікатную прадаўшчыцу альбо на тое, што ў кватэры цякуць краны, а ў ЖЭСе сядзяць бюракраты. Нядаўна ж у адну раённую напісалі пратэстоўцы, якія патрабавалі тлумачэнняў: чаму занадта высокія цэны на культавыя паслугі? Маўляў, бацюшка бярэ і за хрысціны, і за шлюб, і за пахаванне немалыя, на іхнюю думку, грошы. У газеце падумалі і накіравалі скаргу вышэй па інстанцыі — епіскапу. Уладыка разгледзеў пытанне і загадаў протаіерэю сабора на набажэнстве *«абгрунтавана і зразумела давесці вернікам усе моманты, з якіх складаецца цана на паслугі ў саборы».*

Што й казаць, выпадак нештодзённы. Мяне зацікавіла гэтая гісторыя, і я патэлефанаваў у сабор. Аднак протаіерэй адмовіўся паведаміць, як яму ўдалося перакянаць сваіх прыхаджанаў, што кошты на паслугі не такія вялікія, калі ўлічыць амаль галапуючую інфляцыю. Больш за тое, ён не паверыў, што з ім размаўляе карэспандэнт газеты НАВІНЫ, нечакана пажартаваўшы: а можа вы — Садам Хусейн? Сваім недаверам ён пакрыўдзіў адначасова і мяне, чалавека еўрапейскага і досыць дэмакратычнага, і наш сталічны парламент, некаторыя члены якога папросту закаханыя ў іракскага галоўнакамандуючага. Скончылася тым, што мой размоўца адаслаў мяне да самога епіскапа, даўшы нумар тэлефона, па якім я трапіў у кватэру, гаспадар якой на мой нечаканы зварот «уладыка» нават пакрыўдзіўся.

Асабіста я крыўды на протаіерэя не маю, тым больш, мяркуючы па ўсім, ён таксама недалюблівае іракскага дыктатара. Увогуле, шаноўны святар працягвае шчыраваць на сваёй ніве. Вось толькі што прачытаў у той жа раёнцы, як ён на цырымоніі прынцця прысягі маладымі салдатамі блаславіў іх і прэзентаваў некалькі рэлігійных кніжак. Літаратуру прыняў камандзір часткі, які заверыў бацюшку, што яна *«зойме належнае месца ў салдацкай бібліятэцы і камандаванне зробіць усё, каб словы Бога заўсёды спалучаліся ў думках і справах салдат пад час іх ратнай працы».* Вось такія цікавыя часы наступілі. Ці вы не згодныя?



Лешэк БАЛЬЦЭРОВІЧ

# «Сацыялізм. Капіталізм. Трансфармацыя»

(Фрагменты з кнігі)

(Працяг. Пачатак у № 3)

## Выбар людзей і вызначэнне правілаў гульні

Я ўсведамляў, што эканамічная адміністрацыя ў дзяржаўным апараце была слабая як па колькасці, так і па кампетэнцыі спецыялістаў. Аднак з-за недахопу людзей з належнымі ведамі рыначнай эканомікі і мноства неадкладных праблемаў хутка выправіць гэтае становішча было немагчыма. Таму я за два тыдні з пачатку сваёй дзейнасці на пасадзе віцэ-прэм'ера сфарміраваў групу з блізкіх саюзнікаў, у якую часткова ўвайшлі і людзі з апарату. Адначасна я правёў структурныя змяненні ў інстытутах, за якія адказваў. У міністэрстве фінансаў мы ліквідавалі распухлы дэпартамент цэнаў (адказны пераважна за кантроль над імі) і стварылі практычна з нічога дэпартамент, які павінен быў займацца банкамі і страхавымі кампаніямі. Як намеснік прэм'ер-міністра я стварыў шэраг каардынуючых камітэтаў, якія рашалі бягучыя праблемы. Важную ролю адыграў аддзел, які вёў працу з палітычнымі партыямі, парламентам, упраўленнем прэзідэнта, прафсаюзамі, сродкамі масавай інфармацыі і г.д.

Для запуску эканамічнай праграмы мы вызначылі дату — 1 снежня 1990 г. (першы дзень фінансавага года), бо ўсведамлялі, што пры драматычных зменах, якія перажывалі іншыя краіны Усходняй Еўропы, праз некалькі месяцаў цікавасць заходніх краінаў да Польшчы знікне. Важнымі былі і ўнутраныя ўмовы: імклівa расла інфляцыя, кожны месяц затрымкі толькі паглыбляў эканамічны хаос. Каштоўны «палітычны капітал» мог быць вычарпаны без аніякай карысці для эканомікі.

Скрайні тэрмін 1 студзеня 1990 года азначаў, што для падрыхтоўкі неабходных законаў, для іх адабрэння ў сейме і сенаце, для ўзгаднення праграмы з Міжнародным валютным фондам, падрыхтоўкі выканаўчых загадаў і вырашэння «бягучых» праблемаў у нас было няшмат часу. Некаторыя прадстаўнікі ўрадавых колаў выказваліся, што зрабіць праграму за такі кароткі час немагчыма. Аднак наша каманда не дапускала нават думкі аб адмене тэрміну выступлення.

Сваю дзейнасць мы мусілі скончыць да 17 снежня 1989 г. — гэтую дату вызначыў сейм. 17 снежня фактычна прыпадала на нядзелю, аднак мы палічылі, што затрымка дэбатаў у сейме нават на адзін дзень можа паставіць пад пагрозу ўсю праграму. Мы падрыхтавалі адзінаццаць прапановаў, якія б значна змянілі легальную аснову эканомікі. З гэтага моманту ўсё залежала ад хуткасці дзеяння ў сейма.

Я папрасіў ваенных аб дапамозе пры раздрукоўцы матэрыялаў, бо магчымасці ўрадавага ўпраўлення друку былі абмежаваныя. Мы таксама баяліся, што членаў сейма трэба будзе шукаць па ўсёй краіне і яны могуць не атрымаць праекты законаў.

17 снежня 1989 г. я выступіў у сейме. Мая прамова трансліравалася па тэлебачанні. Я сказаў, што задача па пераўтварэнні эканамічнай сістэмы ўзнікла пры надта неспрыяльных умовах: велізарная інфляцыя, недахоп рэзерваў замежнай валюты і прыгнятальны цяжар замежнага доўгу. Задачы, якія прыйдзецца вырашаць Польшчы, ашаламляльныя і беспрэцэдэнтныя.

Паседжанне сейма скончылася стварэннем «надзвычайнай камісіі». У яе ўвайшлі прадстаўнікі розных палітычных партыяў і розных парламенцкіх камісіяў. Праца камісіі адбывалася ў адзін з найлепшых перыядаў дзейнасці таго парламента. Яе члены ўзгадвалі пазней, што гэта было «рамантычнае імгненне, калі палітычныя падзелы зніклі».

Паралельна мы займаліся вырашэннем яшчэ адной цяжкай праблемы — як атрымаць крэдыты ў фонд стабілізацыі ад заходніх прадпрымальнікаў. Гэтыя ўклады, на 1 мільярд долараў ЗША, павінны былі падспяшыць канвертуемасці польскага злотага.

29 снежня яшчэ прыходзілі апошнія дэкларацыі. Бальшыня заходніх краінаў абяцала забяспечыць нас крэдытамі і грантамі. Аднак нам трэба было атрымаць іх своечасова. Міністэрства фінансаў ЗША і асабліва намеснік міністра фінансаў Дэвід Малфард аказалі вялікую дапамогу пры атрыманні гэтых грошай. Тым не менш, затрымкі крэдытаў мелі месца. У мяне была вельмі драматычная тэлефонная размова з дырэктарам Міжнароднага валютнага фонду Мішэлем Камдэсю, якому я паведаміў, што мы робім усё, аб чым заяўлялі ў сваёй эканамічнай праграме, а Захад затрымлівае сваю падтрымку ў фонд стабілізацыі. Якраз перад Калядамі я мусіў звярнуцца да Дэвіда Малфарда за дапамогай. У яго пошуках я абзваніў усе Штаты. У рэшце рэшт, я знайшоў яго ў Брусселі: ён ляжаў хворы на грып у гатэлі. Ён выслухаў мяне і абяцаў дапамагчы. Сапраўды хутка была сабраная частка сумы: да канца снежня яна складала каля 400 мільёнаў долараў ЗША, і нас запэўнілі, што да 7 студзеня 1990 г. можна будзе атрымаць астатнюю частку.

27 снежня сейм зацвердзіў заканадаўчы пакет. Апошняе, што патрабавалася, — подпіс прэзідэнта Польшчы. Папярэдне я нанёс візіт прэзідэнту Ярузельскаму. Я паведаміў яму аб галоўным накірунку эканамічнай праграмы і надзвычайнай заканадаўчай працэдуры. Ярузельскі сказаў, што падтрымоўвае наш падыход. Мы праверылі расклад яго працы на 30 і 31 снежня, каб пераканацца, што ў яго будзе час для таго, каб падпісаць усе пастановы да Новага года. Я ведаў, што на Новы год ён планаваў пакінуць Варшаву, таму мы вызначылі, калі дакладна ён будзе выязджаць...

## Рэформа працуе

Першыя тыдні 1990 г. былі вельмі напружаныя. Сігналы паступалі трывожныя. Напачатку студзеня міністр унутранага гандлю паведаміў, што запасы збожжа, мяса і прадуктаў малыя. Міністр сельскай гаспадаркі гэта пацвердзіў. На мяне аказвалі вялікі ўціск, каб я папрасіў Захад аб дадатковым забеспячэнні нас прадуктамі. Я зрабіў некалькі званкоў у Брусель і Злучаныя Штаты і прасіў неадкладных паставак у Польшчу. Мае людзі сачылі за тым, што адбывалася ў крамах і як змяняліся цэны. За першыя два тыдні мы адзначылі значны скачок коштаў, асабліва на прадукты харчавання. На жаль, адваротная змяненню ў пастаўках прадуктаў з-за мяжы адразу пасля гэтага не адбылося. Павелічэнне цэнавага ўзроўню ў студзені было, фактычна, адным з элементаў праграмы. Аднак мы не ведалі, калі дакладна гэтыя скачкі цэнаў спыняцца. Другой мэтай была ліквідацыя нястачаў. Абедзвюм мэтам пагражала небяспека. На аснове частковых дадзеных мы маглі толькі выказваць здагадкі. У лютым мы даведаліся — і гэта быў непрыемны сюрпрыз, — што цэнавы ўзровень павялічыўся не на 45%, як мы меркавалі, а на 78%. Аднак пазітыўным сігналам было ўзнікненне вулічнага гандлю. Многія фермеры вырашылі самі прадаваць сваю прадукцыю. Таксама на вуліцах з'явіліся машыны, поўныя прамысловых тавараў. Вулічны гандаль, хоць яго і крытыкавалі за прымітывізм, на той час адыграў важную ролю. Перш за ўсё, ён мог прапанаваць больш тавараў і па ніжэйшых коштах, чым дзяржаўныя крамы, а па-другое, ён ствараў умовы для канкурэнцыі. Дзякуючы вулічнаму гандлю хутка знікла нястача прадуктаў, а ў лютым значна палепшылася сітуацыя на рынку. Напрыканцы студзеня можна было заўважыць першыя прыкметы паніжэння цэнаў. Я памятаю, як у другой палове студзеня мае кансультанты спрабавалі падбадзёрыць мяне. Прынамсі, двойчы яны клалі на мой стол інфармацыю, якая паведамляла аб падзенні цэнаў на яйкі. Я загадаў праверыць інфармацыю, яна аказалася ўрыўкавай. Адно можна было сказаць аб яйках з пэўнасцю: напрыканцы студзеня цэны на яйкі не толькі выраўняліся, але ў пэўных рэгіёнах краіны сапраўды знізіліся...



Наш вулічны гандаль. У Польшчы так было 9 гадоў назад.

## Бойкі за падтрымку праграмы

Радыкальныя змены ў эканоміцы напачатку не выклікалі сур'ёзнай сацыяльнай рэакцыі. Прафсаюзы не рыхтавалі ніякіх драматычных пратэстаў. Усе хацелі ведаць, якімі будуць рэальныя вынікі праграмы стабілізацыі і лібералізацыі. Сітуацыя пачала змяняцца праз некалькі месяцаў. Напрыканцы сакавіка ў мяне здарылася першая канфрантацыя з прадстаўнікамі прафсаюзаў Мазовіі. Сустрэча з іхняй дэлегацыяй праходзіла бурліва. Галоўнай тэмай размовы было пытанне: «І ўсё гэта прыйдзецца цярпець нашаму грамадству?» Гучалі папярэджанні, што цярпенне людзей дайшло да мяжы. Выказвалася думка, што хутчэй за ўсіх разбагацеюць тыя, хто меў прывілеі ў мінулай сістэме, гэта значыць, былая наменклатура, якая правядзе «партыйную прыватызацыю». Людзей хвалявала ступень верагоднасці таго, што Польшча стане калоніяй Захаду і будзе экспартаваць сваю сыравіну.

1991 год пачаўся з канфлікту, выкліканага кантролем зарплаты. Гэта быў адзін з пабочных эфектаў прэзідэнцкай кампаніі, што праводзілася ўвосень 1990 г., калі рэзка крытыкавалася падаткаабкладанне на павялічаную зарплату. Прафсаюзы хацелі выкарыстаць змену ўрада для атрымання саступак у гэтай сферы. Перамовы з прафсаюзамі былі цяжкія, бо я не бачыў аніякай магчымасці саступіць.

Калі бойка з-за *popiwek* (падатку на зарплату) пакрыху пачала сціхаць, узнік іншы канфлікт: сталі паступаць сігналы, што вось-вось пачнецца пратэст на вёсцы. Я думаю, што ў некаторай ступені гэта таксама стала ся вынікам прэзідэнцкай кампаніі 1990 г., якая павялічыла чаканні фермераў. Сяляне патрабавалі гарантаваных мінімальных цэнаў на сельскагаспадарчыя прадукты, крэдытаў пад нізкія працэнты і большай абароны сваіх інтарэсаў на межах (праз мытныя пошліны). Акрамя таго, усё больш страйкаў адбывалася на дзяржаўных сельскагаспадарчых прадпрыемствах.

Другое жаданне, якое часта выказвалі сяляне і якому я вельмі працівіўся, закранала атрыманне крэдытаў на льготных умовах, да якіх польскае сялянства прывыкла ў мінулым. Увогуле, я лічыў, што радыкальны падыход прааграрных актывістаў быў выкліканы не столькі цяжкасцямі, якія перажывалі сяляне, колькі барацьбой паміж рознымі палітычнымі партыямі за іх галасы. Вопыт іншых краінаў паказваў, што сяляне схільныя да радыкальных рухаў, магчыма, таму, што, у адрозненне ад прамысловых рабочых, яны не рызыкуюць страціць сваю працу. Я таксама назіраў еўрапейскую супольнасць і бачыў згубнае ўздзеянне штучнага павелічэння коштаў на сельскагаспадарчую прадукцыю і тое, як цяжка адысці ад такога курсу палітыкі. Што тычыцца прадукцыі, дык наша прыватная сельская гаспадарка даволі добра прыстасавалася да эканамічнай праграмы лібералізацыі. Аднак, калі разглядаць узровень даходаў, то становішча сялянаў сапраўды пагоршылася, асабліва ў 1990 г., бо ў годзе папярэднім яны нечакана атрымалі вялікія палёгкі. Пасля лібералізацыі 1989 г. цэны на сельскагаспадарчую прадукцыю значна павялічыліся. Гэта адбылося хутчэй, чым павелічэнне коштаў на прамысловую прадукцыю, якую куплялі сяляне. Аднак у 1990 г. цэны рухаліся ўжо ў адваротным накірунку.

Неспрыяльным быў для нас і палітычны каляндар краіны. За 1990 і 1991 гады мы правялі дзве выбарчыя кампаніі і двойчы змянілі ўрад. Нават у краінах са стабільнай эканомікай палітычнае напружанне, выкліканае выбарчымі кампаніямі, можа аказаць негатыўны ўплыў на эканамічную сітуацыю. Што ж казаць аб краіне, якая перажывала пераходны перыяд у сацыяльнай і эканамічнай сферах. Акрамя таго, чым большы дзяржаўны сектар эканомікі, тым большая верагоднасць яе палітызацыі. Нават падчас прэзідэнцкіх выбараў у 1990 г. эканамічная праграма захапіла ўвагу большасці яе ўдзельнікаў. Я быў занепакоены, што падчас наступнай парламенцкай кампаніі ў 1991 г. папулісцкія лозунгі выклікаюць яшчэ большае напружанне.

(Працяг будзе)

# Першы беларускі тэлесерыял

Беларускае тэлебачанне ў сераду пачало трансляцыю першага айчыннага серыяла «Пракляты ўтульны дом», знятага па матывах аповесці польскага пісьменніка Стэфана Жэромскага «Верная рака». Напярэдадні прэм'еры карэспандэнт НАВІНАЎ сустрэўся з аўтарам сцэнару фільма Уладзімірам Халіпам і рэжысёрам-пастаноўшчыкам Уладзімірам Арловым, якія расказалі аб гісторыі стварэння гэтага серыяла.

Зрабіць серыял аўтараў фільма падштурхнула пачуццё здаровай творчай зайздрасці. Маўляў, чым беларусы горш за якіх-небудзь лацінаамерыканцаў, што здымаюць мыльныя оперы з абсалютна надуманым сюжэтам. Сцэнарыст і рэжысёр лічаць, што ў Беларусі вельмі багатая і цікавая гісторыя, якой хопіць на сотні падобных стужак. Ідэя зняць першы беларускі серыял на нейкі гістарычны сюжэт з'явілася ў Уладзіміра Арлова ў 1992 годзе. Ён падзяліўся сваёй задумай з вядомым сцэнарыстам Уладзімірам Халіпам, і разам яны пачалі абмяркоўваць, які перыяд айчыннай гісторыі найперш варты ўвагі. Халіп узгадаў, што яшчэ ў 60-я гады ён спрабаваў пісаць сцэнары да фільма аб студзеньскім паўстанні 1863 года. Аднак у той час атрымаць згоду Масквы на здымкі карціны пра тое, як беларусы пад кіраўніцтвам Каліноўскага ваявалі супраць рускіх, было немагчыма. Аднак у пачатку 90-х часы змяніліся, Беларусь стала незалежнай дзяржавай, і тэма паўстання 1863 г. ужо не была гістарычным табу. Па словах Уладзіміра Арлова, яны з Халіпам адабралі некалькі варыянтаў літаратурных твораў, па матывах якіх мог бы быць зняты серыял, і ўрэшце спынілі свой выбар на аповесці Стэфана Жэромскага «Верная рака».

На маё пытанне, чаму менавіта Жэромскі, Арлоў адказаў наступным чынам: *«Па-першае, гэта добрая літаратура, а па-другое, падзеі аповесці адбываюцца ў нашых мясцінах і ў іх удзельнічаюць людзі розных нацыянальнасцяў, уцягнутыя ў гэты крывавы вір. Да ўсяго, карціна, апісаная Жэромскім, адпавядала нашым фінансавым магчымасцям. Асноўныя падзеі фільма адбываюцца ў напаўразбураным шляхецкім фальварку. Героі карціны паўстанцы, вайскоўцы і сяляне — карацей нам не спатрэбілася шмат грошаў выдаткоўваць на дарагія адзенне і дэкарацыі».*



*Рэжысёр Уладзімір Арлоў і акцёр Данатас Баніёніс.*

Дарэчы, дзяржаўныя структуры паставіліся спачатку да задумы Арлова і Халіпа даволі холадна і не збіраліся фінансаваць іхні праект. Але для аўтараў серыяла такое стаўленне чыноўнікаў да фільма не стала перашкодай. Па словах Уладзіміра Халіпа, Арлоў вельмі актыўны чалавек, і яму ўдалося знайсці альтэрнатыўныя фінансавыя крыніцы, прыцягнуць спонсараў, і толькі на заключным этапе здымак да фінансавання далучылася БТ. *«Недахоп сродкаў канешне заўважальны, але мы радыя, што фільм удалося зняць і за такія малыя грошы»,* — гавораць аўтары. Серыял, які атрымаў назву «Пракляты ўтульны дом», пачалі здымаць у 1993 годзе, і праз 40 месяцаў работа над фільмам была завершаная. Карціна складаецца з 33 серыяў па 80 хвілінаў кожная. Фільм здымалі ў некалькіх мясцінах на Навагрудчыне. «Пракляты ўтульны дом», у якім жыве галоўная гераіня шляхцянка Саламея, знайшлі ў колішнім маёнтку графаў Храптовічаў Шчорсы. Гэтая сядзіба, па словах Арлова, была вельмі запушчаная, з выбітымі шыбамі, знішчанай падлогай, і здымачнай групе прыйшлося нямала папрацаваць, каб прывесці дом, у якім бывалі Міцкевіч, Сыракомля і іншыя гістарычныя асобы, у больш-менш прыстойны выгляд. Некаторыя сцэны фільма здымалі ў мястэчку Любча, а таксама ў Навагрудку. Аўтары серыяла асабліва ўдзячны тагачаснаму пробашчу навагрудскага Фарнага касцёла, а цяперашняму гродзенскаму біскупу Антонію Дзям'янку, які дазволіў зняць некалькі сцэнаў карціны ў храме.



*Алена Мазгова ў ролі Саламеі.*

Падчас здымкаў не абышлося і без некаторых кур'ёзных момантаў. У адной з вёсак Навагрудчыны група ўзяла ў арэнду каня, які пасля каманды «матор» павінен быў везці карэту з князем Юзафам Адравонжам і яго маці ў накірунку Навагрудка. Конь, аднак, трапіўся нейкі ўпарты і цягнуў экіпаж у адваротным напрамку. Сцэну прыйшлося здымаць з іншага боку. І толькі пасля высветлілася, што якраз у гэты час каня кармілі, і ён, не зважаючы ні на што, цягнуўся ў бок сваёй вёскі. Яшчэ адзін раз праблемы рэжысёру стварыў мясцовы селянін з санямі, якога запрасілі зняцца ў эпізадычнай ролі. Арлоў загадаў грошы на работу мужыку не выплачваць, пакуль сцэна не будзе адзнятая, бо ведаў, што вазніца можа адразу напіцца і тады рабоце канец. Аднак селянін запатрабаваў грошы наперад, а атрымаўшы адмову, развярнуўся і паехаў дахаты. Сітуацыю трэба было неяк ратаваць, і замест саней у кадры паказаны толькі герой, які праводзіць поглядам след ад палазоў на снезе.

Але ў асноўным, па словах аўтараў серыяла, творчы калектыў працаваў даволі прафесійна і адказна. У фільме ў большасці задзейнічаны малавядомыя акцёры. Праўда, граюць у ім і такія зоркі кіно, як народныя артысты СССР Данатас Баніёніс, Расціслаў Янкоўскі і Віктар Тарасаў, а таксама вядомыя ў Беларусі Ігар Забара і Віталь Рэдзька ў ролі князя Адравонжа. Аднак галоўная праблема, якая паўстала перад Уладзімірам Арловым, каго запрасіць на галоўную жаночую ролю — Саламеі. Рэжысёр прагледзеў 60 кандыдатак, сярод якіх была і выпускніца тэатральнага факультэта Акадэміі мастацтва Алена Мазгова, і застаўся незадаволены. Усе прэтэндэнткі былі нейкага не шляхецкага выгляду. Праз нейкі час Арлову зноў параілі паглядзець Мазгову, якая нядаўна нарадзіла дзіця. Рэжысёр паглядзеў і адразу ўзяў Алену на роль Саламеі. Па яго словах, пасля родаў маладая жанчына неяк па-асаблівому расквітнела.

Фільм спецыяльна быў зняты на рускай мове, паколькі яго плануюць прадаць для дэманстрацыі ў Расіі і іншых краінах СНД. Аднак, на думку У.Арлова, ад гэтага «Пракляты ўтульны дом» не страціў свайго беларускага зместу.

— Аповесць Жэромскага налічвае ўсяго 133 старонкі. Як на такой фактуры ўдалося зняць 28-гадзінны серыял?

— «Верная рака» напісаная як канспект, і мне без асаблівых цяжкасцяў удалося разгарнуць сюжэт больш шырока, — гаворыць аўтар сцэнару Уладзімір Халіп.

У фільме з'явіліся такія героі, як бацька Саламеі, карчмар і іншыя. Такім чынам сцэнар фільма павялічыўся амаль да 800 старонак. Уладзімір Халіп лічыць, што гэтым ён не парушыў фабулы аўтара аповесці, паколькі ў экранізацыі літаратурных твораў такія рэчы дапушчальныя.

Як прызнаўся Уладзімір Арлоў, у сваім фільме, героі якога трапілі ў крывавы вір паўстання, ён зрабіў выразны антываенны акцэнт. Гэта меладраматычны серыял аб гісторыі кахання двух маладых людзей на фоне бурных і складаных падзеяў 1863 года ў Беларусі.

**Данута ЛЯЎКОВІЧ**

**АФІША**

# Балетны дэбют кампаніі Philip Morris

### Тэатры

20 студзеня ў Тэатры оперы і балета пройдзе ўрачыстая цырымонія ўручэння прэміі, якую кампанія *Philip Morris* усталявала для артыстаў беларускага балета. Ужо цяпер вядомыя імёны пяці прэтэндэнтаў, дзвюх балерын і трох танцоўшчыкаў, якія будуць фігураваць на цырымоніі як намінанты прэміі «*Philip Morris*-Дэбют». Самыя шаноўныя госці – дзеячы балета і спонсары – вядома ж, атрымаюць запрашэнні на гэтае свята танца. А ўсім астатнім магу параіць набыць кветкі (дарэчы, яны каштуюць нядорага, да 250 тысяч рублёў). Пачатак – а 19-й гадзіне.

15 студзеня ў Тэатры оперы і балета нас чакае вялікая праграма аднаактовых балетаў: за адзін вечар пройдуць «Прывал кавалерыі», «Балеро» і «Кармэн-сюіта». 16 студзеня тут прагучыць опера «Князь Ігар», 17-га раніцай пройдзе дзіцячая опера «Чароўная музыка», а ўвечары – балет «Раймонда». 19 студзеня ёсць магчымасць паслухаць і паглядзець класічную оперу «Сялянскі гонар», 20-га адбудзецца вечар балетаў Стравінскага («Жар-птушка» і «Вясна свяшчэнная»), 21-га пройдзе опера «Шлюбны вэксаль».

На сцэне Тэатра імя Янкі Купалы 15 студзеня разыграюцца драматычныя (і амаль праўдзівыя) падзеі з жыцця апошняга рымскага імператара — «Ромул Вялікі». 16-га пройдуць «Страсці па Аўдзеі» (на Малой купалаўскай сцэне ў гэты ж дзень – «Дагарэла свечачка»), 17-га – «Парфен і Аляксандра» (на Малой сцэне – «Крывавая Мэры»), а 18 студзеня можна пабачыць «Касцюмера».

Вясёлую камедыю з жыцця людзей і багоў «Амфітрыён» прапануе пабачыць 15 студзеня Рускі тэатр. Тут таксама пройдуць «У прыцемках» (16 студзеня), «Іван ды Мар'я» (17 студзеня, раніца) і «Раскіданае гняздо» (таксама 17 студзеня, вечар). Тэатр-студыя кінаакцёра 15 студзеня запрашае на імпрэзу «Айседора. Танец кахання», 16 і 17-га тут пройдзе «Выкраданне Елены», 19-га – «Мілы хлус», 20-га – «Каханне смешнага чалавека», 21-га – «Тэатр купца Япішкіна».

Тэатр-лабараторыя «Вольная сцэна» запрашае пабачыць 15 студзеня фольк-жарт «Паваліўся нехта», 16-га вас тут чакае імпрэза ў духу абсурду «Бот і яго шкарпэтка», 17-га – трохі гісторыі: «Барбара Радзівіл». 20 студзеня на «Вольнай сцэне» пройдзе «Узлёт Артура Уі, які можна было спыніць». У Маладзёжным тэатры 15 і 16 студзеня – «Што такое каханне», 20 і 21-га – «Недзе далёка». Дзетак Маладзёжны тэатр запрашае на казку «Брыдкае качаня» (17 студзеня ў 11:00 і 13:00).

Тэатр музычнай камедыі 15 студзеня чакае прыхільнікаў аперэты на канцэрт. У нядзелю, 17 студзеня, тут пройдуць дзве імпрэзы: «Прыгоды ў замку Алфавіт» раніцай і «Ноч у Венецыі» ўвечары. 20 студзеня нас чакае аперэта «Капялюш Напалеона», а 21-га – славутая «Вясёлая ўдава».

### Канцэрты

Пачатак года для артыстаў – час адпачынку пасля напружанай святочнай работы. У сталічных канцэртных залах цяпер надышоў час нядоўгага зацішша. Аднак ужо вельмі хутка на Мінск абрынецца новая хваля гастралёраў. Першай госцяй Беларусі ў новым годзе стане знакамітая спявачка, народная артыстка Расіі Алена Камбурава. Гэта яе голас ужо некалькі дзесяцігоддзяў гучыць для нас па тэлебачанні, радыё і за кадрам кінафільмаў – ад «Дульсінеі Табоскай», дзе голасам Камбуравай «спявала» Наталля Гундарава, і да... «Прыгодаў Электроніка», дзе спявачка агучвала спевы абодвух галоўных герояў – і жывога хлопчыка, і электроннага. З Аленай Камбуравай мінчукі змогуць яшчэ раз сустрэцца ў Канцэртнай зале філармоніі 21 студзеня, пачатак а 19-й гадзіне, кошт квіткоў ад 600 да 900 тысяч рублёў.

Канцэртная зала філармоніі запрашае таксама на сустрэчу з Камерным аркестрам народных інструментаў пад кіраўніцтвам Яўгена Глебава (15 студзеня), 16-га тут пройдзе канцэрт ансамбля харэаграфічных і музычных мініяцюр «Бліскавіца», а 17-га адбудзецца чарговая сустрэча з музыкай вучняў малодшай школы, якая гэтым разам пазнаёміць дзетак з чарадзействамі музычнага тэатра (пачатак у 16:00).

Канцэрт арганнай музыкі пройдзе 16 студзеня ў Зале камернай музыкі, выканаўца – Канстанцін Шараў.

### Дыскатэкі

«Здаў ты экзамены ці не здаў – што з таго?» – кажуць найбольш бесшабашныя прадстаўнікі нашага студэнцтва і замест чытальняў накіроўваюцца ў маладзёжныя клубы. Бесперабойна працуе гэтымі днямі клуб «Альтэрнатыва» (вул.Бяды, 4). Сёння ў 22:00 тут пачнецца вечарынка на ўсю ноч пад назвай «Сесія *Don't Stop*», а заўтра, 16 студзеня, пройдзе праграма *Punk Fiction*, і гуляць у панкаў можна будзе таксама аж да раніцы – з 22:00 да 6:00. Уваход на начную дыскатэку каштуе 400 тысяч рублёў. А 17 студзеня, «на закуску», «Альтэрнатыва» прапануе яшчэ адну праграму, якая мае нявінную назву «PRЫG-PRЫG», каштуе ўсяго 150 тысяч за адзін квіток і працягнецца з 19 да 23 гадзінаў.

**Ганна ШЫМЕЛЕВІЧ**

 



# Іменем Вялікага княства

Грамадзяне Беларусі старэйшага ўзросту, магчыма, яшчэ памятаюць, як у 60-я гады на школьных уроках грамадазнаўства рыхтаваліся жыць у абяцанай КПСС светлай будучыні. Сярод шматлікіх выгадаў камунізму была і адсутнасць такой хранічнай праблемы чалавечай цывілізацыі, як злачыннасць. Некалькі прамінулых дзесяцігоддзяў засведчылі, што праблема гэтая на былым абшары СССР вырашана гэтаксама паспяхова, як і сама велічная задача пабудовы шчаслівага бясклясавага грамадства.

Карацей, ніхто не сумняваецца, што крымінальныя кодэксы, суды і турмы перавандруюць разам з намі ў XXI стагоддзе. Але зараз мне хацелася б не палохаць чытача змрочнымі прагнозамі, а ўспомніць, як змагаліся за злачыннасцю ў дзяржаве нашых продкаў — Вялікім Княстве Літоўскім. А раптам гэта дапаможа нейкім чынам умацаваць законнасць у нашай суверэннай дэмакратычнай краіне з яе гуманнымі законамі, незалежнымі судамі і камфартабельнымі месцамі зняволення?

На працягу XVI стагоддзя ў Вялікім княстве прымаюцца тры заканадаўчыя кодэксы — Статуты 1529, 1566 і 1588 гадоў. Апошні з іх гісторыкі права справядліва лічаць найбольш перадавым зводам законаў у тагачаснай Еўропе. Побач з нормамі канстытуцыйнага грамадзянскага і іншых галінаў права Статут 1588 года (дарэчы, напісаны і выдадзены па-беларуску — на адзінай дзяржаўнай мове краіны) уключаў усе нормы і азначэнні, датычныя злачынства і пакарання. На іх аснове ў Вялікім княстве праводзілася судова-прававая рэформа. Патрабаваннямі Статута вышэйшыя і мясцовыя суды Беларусі кіраваліся болей за 250 гадоў — амаль да сярэдзіны XIX стагоддзя.

У залежнасці ад абставінаў закон характарызаваў дзеянні прадстаўнікоў злачыннага свету тых часоў рознымі тэрмінамі: «выступ», «злочинство», «кривда», «шкода», «гвалт», «збыток»... Гвалтам называлася выкарыстанне да пацярпелага фізічнага ці псіхічнага прымусу. Азначэнне «злодейство» ўжывалася ў выпадку замаху на маёмасць. Слова «збыток» азначала хуліганскі ўчынак.

Злачынцам Статут прызнаваў разумова здаровую асобу, не малодшую за 16 гадоў. Крымінальнай адказнасці не падлягалі псіхічна хворыя — «дурни», «шалёныя» і «от розуму отошедшия». Злачынствы, здзейсненыя пад чаркай («з опильства»), прыраўноўваліся да ўчыненых «по злому умыслению». Заканадаўцы прадугледжвалі нормы неабходнай абароны ад гвалтаўнікоў і злодзеяў.

Першы раздзел Статута «О персоне нашой господарской» разглядаў найбольш цяжкія дзяржаўныя злачынствы. Самі за сябе гавораць назвы другога, чацвёртага і адзінаццатага раздзелаў — «О обороне земской», «О судьях и о судех», «О ґвалтех, о боех, о головщизнах шляхетских».

Кодэкс пералічваў цяжкія злачынствы — забойства, разбой, згвалтаванне, падпал — і рэгламентаваў акалічнасці, якія абцяжарвалі або змякчалі віну. Да першых адносіліся забойства бацькоў, забойства шляхціча чалавекам «простага стану», забойствы «здрадлівым, потаемным обычаем» і зброяй «да бою незвыклой». Памякчалі пакаранні пры забойстве ў выпадку дуэлі (двубоя), сваркі і ненаўмысных дзеяннаў.

Статут 1588 года ўзводзіў у ранг галоўных прынцыпы справядлівасці і бесстаронасці, патрабуючы «судити и справовати всех станов однако и одностайне». Замацоўваліся такія прагрэсіўныя прынцыпы, як роўнасць перад законам, прызнанне чалавека злачынцам выключна ў судовым парадку, вызначэнне пакарання суразмерна ўчыненаму парушэнню. (Трэба меркаваць, што ў нашай сённяшняй прававой дзяржаве нагадваць ахоўнікам закона пра такія відавочныя рэчы патрэбы ўжо няма.)

Цяпер пра пакаранні. Найбольш пашыранымі з іх былі маёмасныя, што служылі і асноўнай, і дадатковай карай. Напрыклад, сваякі забітага, апрача іншай сатысфакцыі сваіх прэтэнзіяў, атрымлівалі яшчэ «головщину» (плату за галаву нябожчыка). Тут закон улічваў саслоўнае становішча: калі за шляхціца належала заплаціць сто коп грошай, дык за прыгоннага селяніна — 25 коп. Тое самае адбывалася і пры цялесных пакараннях. Калі просты чалавек збіў шляхціча, злачынцу прысуджалі «урезать руку», шляхціч жа ў такім выпадку толькі плаціў штраф. (Але закон не вызваляў шляхты ад смяротнага пакарання за забойства простага чалавека.)

Цялесныя кары падзяляліся на балючыя (біццё бізунамі, дубцамі ці палкамі) і больш жорсткія, звязаныя з пазбаўленнем злачынца той або іншай часткі цела. Артыкул 27 раздзела XI недвухсэнсоўна абвяшчаў: «Кождый члонак утятый або урезаный, або выбитый, тому, хто в том винен, маеть теж таковой члонок утят и урезан або выбит быти». Пакаранні такога кшталту (але толькі паводле пастановы суда) часам выкарыстоўваліся дзеля папярэджання законапаслухмяных грамадзянаў, што яны маюць справу са злачынцам. Злодзеям адразалі вуха, а зводні і гаспадары прытонаў маглі, акрамя вушэй, пазбавіцца яшчэ носа і вуснаў.

Што да пазбаўлення волі, то Статут прадугледжваў адносна непрацяглыя тэрміны: тры, шэсць, дзевяць і дваццаць тыдняў, а таксама чвэрць, паўгода і адзін год і шэсць тыдняў. Але не будзем ідэалізаваць мінулага, бо на практыцы асуджанага маглі трымаць за кратамі датуль, пакуль ён не здолее заплаціць штрафу.



*Зварот просьбіта да адваката.* Гравюра XVI стагоддзя.



*Судовае паседжанне ў Беларусі XVI стагоддзя.* Тагачасная гравюра.

За найцяжэйшыя злачынствы вінаватага чакала смяротнае пакаранне — павешанне, адсячэнне галавы, спаленне, чвартаванне. Найбольш ганебным і пакутлівым спосабам каралі дзяцей за забойства бацькоў. З такімі злачынцамі Статут патрабаваў абыходзіцца наступным чынам: вазіць па рынку, рвучы цела абцугамі, пасля чаго «в мех скураный, всадивши до него пса, кура, ужа, котку, зашить и, где глыбей, утопити».

Гістарычныя дакументы сведчаць, што ў тую эпоху ў нашых гарадах ужо існавала своеасаблівая катэгорыя жыхароў, якіх праз колькі стагоддзяў мы назавём бамжамі. Гэтых «гульцяеў», што «всякой работаю не бавятся, без службы живучи», пасля двух папярэджанняў закон патрабаваў секчы дубцамі і «вон з мест и местечек выганяти».

Абвінавачаныя ў цяжкіх злачынствах шляхцічы маглі быць абвешчаныя па-за законам і асуджаныя на вечнае выгнанне (баніцыю, або «выгнанне») з дзяржавы. Жонку такога выгнанца закон разглядаў як удаву, а яго дзеці лічыліся сіротамі. Дадатковай мераю пакарання служыла пазбаўленне шляхецкага гонару і вольнасцяў.

Беларуская шляхта заўсёды дбала пра свой гонар, звязаныя з ім справы заззвычай разглядаліся на соймах або ў найвышэйшым судзе дзяржавы — Галоўным Літоўскім Трыбунале, які часам выносіў у такіх выпадках досыць арыгінальныя прысуды. Хрэстаматыйным стаўся вырак 1644 года ў дачыненні да браслаўскага маршалка Крыштофа Рудаміна, што за абразу іншага шляхціча мусіў не проста публічна папрасіць прабачэння, але яшчэ і залезці ў судзе пад ганебную лаву і адтуль пабрахаць па-сабачаму.

Гуманістычны кірунак крымінальнага права ў Вялікім Княстве Літоўскім выяўляўся ў існаванні памілавання асуджаных. Крымінальным пакаранням не падлягалі непаўналетнія і псіхічна хворыя. Закон забараняў караць смерцю цяжарных і патрабаваў больш суровай кары за злачынствы супраць жанчын.

У Статуце была змешчаная прысяга для ўступлення на судовую пасаду. Калі суддзя парушаў патрабаванне кіравацца законам і сумленнем, яго самога магла напаткаць самая жорсткая кара. Пра гэта суддзям не зашкодзіць памятаць ва ўсе часы.

**Уладзімір АРЛОЎ**

# Даты і лёсы

## *15 студзеня*

**1779.** У Лондане з'явіліся ў продажы першыя капелюшы-цыліндры.

**1809.** Нарадзіўся французскі заснавальнік анархізму Жазэф П'ер Прудон, аўтар лозунга «Усялякая ўласнасць — гэта крадзёж».

**1905.** У Мінску пачаўся 5-дзённы страйк усіх навучальных установаў: навучэнцы патрабавалі скасавання самадзяржаўнага ладу ў краіне.

**1912.** Падчас вайны з Турцыяй за Лівію італьянцы ўпершыню скінулі на варожыя акопы з аэраплана прапагандысцкія ўлёткі. Кожнаму жаўнеру, які здасца ў палон, былі паабяцаныя мех зерня і залатая манета.

**1919.** Ультраправыя афіцэры забілі Карла Лібкнехта і Розу Люксембург, якія кіравалі паўстаннем рабочых у Берліне.

**1929.** Нарадзіўся Марцін Лютэр Кінг — харызматычны лідэр праваабарончага руху афраамерыканцаў, лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру 1964 г.

**1959.** Усесаюзны перапіс насельніцтва: у Беларусі жылі 8.054.648 чалавек (у Мінску — 509,5 тысяч). У гэты ж дзень перапіс прайшоў і ў 1970 г.: у Беларусі — 9.002.300 жыхароў, у Мінску — 907,1 тысяч.

## *16 студзеня*

**1919.** Украіна абвесціла вайну РСФСР. У той жа дзень ЦК РКП(б) прыняў рашэнне перадаць Віцебскую, Магілёўскую і Смаленскую губерні БССР у склад Расіі.

**1919.** Нарадзіўся вядомы беларускі кампазітар Уладзімір Алоўнікаў, аўтар сімфанічных і эстрадных твораў.

**1921.** БССР і РСФСР падпісалі Саюзны рабоча-сялянскі дагавор пра ваенны і гаспадарчы саюз. Беларусь атрымала права пасылаць сваіх прадстаўнікоў у вышэйшыя органы ўлады Расійскай Федэрацыі. У адрозненне ад дэкларацыі 25 снежня 1998 г., той дагавор быў складзены на рускай і беларускай мовах.

**1937.** У выніку паводкі ў штаце Агаё загінулі 137 чалавек. Па іроніі лёсу, ніхто з іх не патануў, усе загінулі ад пажараў.

**1938.** Загадам народнага камісара юстыцыі СССР было дазволена аднавіць на працы асобаў, звольненых раней на падставе сваяцкіх сувязяў з «ворагамі народа». У Беларусі звольненых па гэтым артыкуле было 90 тысяч, у СССР — больш за мільён.

## *17 студзеня*

**1782.** Імперскім указам было заснаванае Магілёўскае арцыбіскупства, якому да 1793 г. былі падпарадкаваныя ўсе касцёлы і кляштары ў межах Расійскай імперыі.

**1899.** Нарадзіўся найбольш знакаміты амерыканскі гангстэр Аль Капонэ. Напрыканцы 20-х па ягоным загадзе былі забітыя 227 мафіёзі, якія прэтэндавалі на ягоную пасаду «хроснага бацькі». Аль Капонэ зарабіў мільёны на кантрабандзе віскі і рэкеце, але асуджаны быў толькі за няўплату падаткаў. У турме захварэў на пранцы і памёр у 1947 г.

**1927.** Падчас далучэння Гомельшчыны да Беларусі прадстаўнікі РСФСР запатрабавалі правесці мяжу па Сожы. Пасля пратэсту БССР саюзнае кіраўніцтва адхіліла гэтую ідэю.

**1963.** Пілот *NASA* Джо Уокер узняўся на самалёце *North American X-15A* на вышыню 82,6 км і быў афіцыйна залічаны ў астранаўты.

**1995.** Землятрус у Японіі разбурыў гарады Кобэ і Осака (180 тыс. дамоў). Загінулі 3.500 чалавек.

## *18 студзеня*

**1882.** У Бельску-Падляскім нарадзіўся выбітны архітэктар Іосіф Лангбард, аўтар праектаў Дома ўрада, Дома афіцэраў, опернага тэатра ў Мінску і галоўнага корпуса Акадэміі навук Беларусі.

**1899.** Нарадзіўся вядомы артыст кіно Барыс Бабачкін, стваральнік вобраза Васіля Іванавіча ў фільме «Чапаеў» і выканаўца галоўнай ролі ў першым беларускім фільме «Лясная быль» (1926).

**1913.** Нарадзіўся вядомы амерыканскі акцёр, лаўрэат «Оскара» Дэні Кей (Даніла Камінскі). Апрача кіно, выступаў на Брадвеі (у мюзікле «Пані ў чорным» паспяваў праспяваць прозвішчы 54 расійскіх кампазітараў за 38 секундаў).

**1929.** Асобая нарада пры калегіі ГПУ прыняла рашэнне пра высылку Льва Троцкага ў Турцыю — адзіную краіну, якая пагадзілася прыняць правадыра «сусветнай рэвалюцыі». Параход, на якім Троцкі ехаў у эміграцыю, называўся «Ільіч».

**1989.** Савет міністраў БССР прыняў пастанову пра ўзвядзенне помніка ахвярам масавых рэпрэсій у Курапатах.

*Падрыхтаваў*
**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

**Шаноўныя чытачы!**
**У бліжэйшы час вы зможаце зноў чытаць НАВІНЫ ў Інтэрнэце.**
**Сачыце за аб'явамі!**
**Рэдакцыя**

 

